

# НЯ БУДЗЕ БОЛЬШ НЯГРАМАТНЫХ

## Чаму ўводзіцца ўсеагульнае навучаньне.

Быў час, калі пра школу для рабочых і сялян ніхто не клапаціўся. Нават больш таго — стараліся як мага менш пашыраць школ. Гэта было за царом. Тады рабочымі і сялянамі кіравалі буржуі з панамі. Для сваіх дзяцей яны, нябось, не шкадавалі школ. А працоўныя не павінны былі вучыцца. Навука працоўным адкрывала вочы, прасьвятляла думкі. А гэтага буржуазія якраз і баялася, бо сьвядомы рабочы і селянін хутчэй убачаць, хто яго вораг. Працоўных навучалі толькі таму, каб слухаліся бога, цара і багатых. На самай справе, не навучалі, а яшчэ больш іх зацямнялі.

Так было да рэволюцыі.

А цяпер мы ўводзім усеагульнае абавязковае навучаньне. **Цяпер навука для нас стала абавязковай.**

Чаму гэта так?

А таму, што цяпер працоўныя самі гаспадары. Яны будуюць новае лепшае жыцьцё. У вёсцы праводзіцца колектывізацыя, у горадзе з кожным днём растуць усё новыя і новыя заводы і фабрыкі. І кіруюць усім і робяць усё самі працоўныя. А будаваць новае жыцьцё і кіраваць ім можа толькі чалавек сьвядомы, граматны. Вось чаму няграматнасьць цяпер стала самым шкодным нашым ворагам. Для няграматных працоўных адчыняюцца тысячы школ па ліквідацыі няпісьменнасьці. Да канца 5-годкі не павінна быць ніводнага няграматнага рабочага, колгасьні-

(*Працяг глядзі на стар. 24*).

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 9 верасень 1930

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## СЯЎБА

У колгасе „Перамога“
Час гарачы, працы многа:
Ад зары і да зары
Тут гамоняць трактары.
А з сявалак роўным строем
Жыта сыплецца буйное.
Клім, Ігнат і дзед Мікіта
Барануюць сьпешна жыта,
Каб да восені дажджлівай
Зарунела наша ніва,
Каб на лета вольны край
Меў вялікі ураджай!
Будзем дружна мы змагацца,
Працаваць, не ленавацца,
Каб расьлі, расьлі ў краіне
І колгасы і машыны!






Сёньня ў колгасе „Перамога" вялікае сьвята. Усе, і малыя і старыя, высыпалі на поле. Усе радыя, вясёлыя. Ды як ня радавацца: у колгас „Перамога" прыслалі пяць трактароў. Ужо каторая пара, як пачалі сеяць жыта. Гэтай пары прычакаліся і колгасьнікі. Трактары да іх прыехалі ўпяршыню, і таму ўсім дзіва, як гэта такімі коньмі можна араць.

Калі ўсе сабраліся, старшыня колгасу папрасіў увагі і ўзьлез на трактар. Ён быў таксама ў вельмі вясёлым настроі і радаваўся такому шчасьцю. Ружовы твар яго расплываўся ўсьмешкамі, на ім весела зіхацелі праменьні васеньняга сонца.

Старшыня акінуў усіх ласкавым вокам і сказаў:

— Таварышы колгасьнікі! Для нас з сёньнешняга дня пачынаецца самая вялікая праца. Ніводзін кавалачак зямлі, прызначаны пад жыта, не павінен застацца пуставаць. Мы будзем упяршыню на сваім жыцьці араць поле трактарамі, а сеяць машынай—сявалкай. Гэтага мы дабіліся толькі ў колектыве. Дзяржава нам з усяе сілы дапамагае стаць на ногі, расквітацца з жабрацкаю доляю, забыцца пра голад і холад. Дзяржава дапамагае колгасу чым толькі можа. Але-ж і мы не застанемся ў даўгу: мы будзем старацца рабіць так, каб на нашай зямлі радзіла ў два, у тры разы болей, чым раней, калі мы ўраблялі зямлю кожны ў асобку. Цяпер мы ўсе сілы, усю зямлю злучылі ў адну гаспадарку.

Мы маем магчымасьць перайсьці да машыннай апрацоўкі поля. Мы ніводнага нашага шагу ня ступім без навукі. Будзем з усіх сіл дабівацца, каб наш ураджай быў удвая большы, чым у сялян, якія яшчэ не пашлі па нашай дарозе. Толькі так мы апраўдаем высокае імя колгасьніка, і толькі такім спосабам прыцягнем на свой бок усіх беднякоў і серадняков.

Няхай жыве колгас „Перамога“, які ступіў на шлях новага жыцьця!

Калі старшыня скончыў, усе трактары выстраіліся адзін за другім перад шырокаю палосаю. І нібы па загаду, раптам залапаталі, загулі моторы, трактары ірвануліся ўздоўж шырокага поля. Адзін, за ім, адступіўшы на чатыры баразны, другі, трэці.

— Цэлую чвартковую палосу занялі,—дзівяцца людзі, з замілаваньнем гледзячы на сталёвых коняй.

Чорныя, роўныя скібы сьвежай зямлі красаваліся на дарозе, дзе праімчаліся сталёвыя коні.

— І лёгка так,—дзівіўся адзін дзядок Патап, які многа перажыў і бачыў на сьвеце: і турэцкую вайну, і паншчыну, і розных князёў, а пра такое дзіва і ня сьніў ніколі.—Гэта-ж,—кажа ён,—сядзі сабе, пэхкай з люлькі ды і ўсё тут.

— Дзеда пасадзіць на трактар!—гукнуў старшыня.

— Дзеда! Дзеда!—падхапілі ўсе.

Гэтая думка для ўсіх паказалася вельмі пажаданай і забаўнай.

Калі першы трактар вярнуўся назад, мужчыны гуртам падхапілі дзеда Патапа і, як пярынку, ускінулі на трактар. Сівенькі дзядок крахтаў, кашляў і ад радасьці сьмяяўся, як малое дзіця.

І дзеда Патапа павёз трактар.

Пасьля гэтага ўсіх, хто хацеў, садзілі на трактары і дазвалялі праехацца.

А пад вечар вялізарная колгасная ніва пахла сьвежаю зямлёю з прымешкаю газы.

На заўтра па гэтым полі пусьцілі сявалку, а ўсе мужчыны пазапрагалі коняй і баранавалі ніву.

Так засявалі жыта ў колгасе „Перамога“.



# Пісьмо з колгасу

*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ.*

Жэня і Каця вельмі сябруюць паміж сабою. Няма таго дня, каб яны ня былі разам. Калі хварэла Жэня—сумавала Каця. Цяпер бацькі Жэні едуць у колгас, а Каця застаецца на старым месцы. Ах, як шкада Каці, што ад'яжджае Жэня! А Жэньцы шкада пакідаць Кацю, ды ў яе ёсьць уцеха: яна едзе на новае месца—у колгас.

„Ня сумуй, Каця, кажа Жэня, калі настаў дзень разьвітацца, я табе адтуль пісьмо напішу“.

Але, калі Жэня села на калёсы з бацькамі, дык і Каця і Жэня заплакалі.

Прайшло тры тыдні, як паехала Жэня. Была серада. У гэты дзень у вёску, дзе жыла Каця, прыяжджала пошта. Кожны раз, як прыходзіла пошта, Каця бегла пытацца, ці ёсьць ёй пісьмо. І вось сёньня, калі яна спытала ў паштальёна, ці ёсьць ёй пісьмо, паштальён падаў ёй беленькі канвэрцік. Схапіла пісьмо Каця і радая пабегла дамоў: яна ведала, што гэта ад Жэні.

Вось што пісала Жэня:

„Ужо тры тыдні я жыву ў колгасе. У нас 14 акцябрат. Мы разам гуляем і памагаем працаваць піонэрам: зьбіраем з імі уціль, пільнуем грады, зьбіраем пустазельле. Я вельмі хачу быць піонэркай і шкадую, што я яшчэ сёлета малая. Але-ж я ўжо ня зусім малая. Ня гэткая, як мая сястра Клара, якая яшчэ нічога ня ведае і нават дзярэ кніжкі. А нядаўна яна схапіла Якубаў гальштук і завярцела ў яго ляльку. Не, мы, акцябраты, ужо



*У Менску будуецца вялізарны будынак—Дом Ураду. У гэтым будынку будуць зьмешчаны ўсе цэнтральныя ўрадавыя ўстановы. На фотографіі—выгляд будаўніцтва.*

ня гэткія. Мы нават памагаем піонэрам карміць хатніх птушак, трусікаў. Піонэры з намі гуляюць у розныя гульні. У нас тут ёсьць мячыкі. Нам весела. Дрэнна, што ты, Каця, ад нас далёка жывеш—пабачыла-б усё сама. Нядаўна да нас прыходзілі піонэры з трох суседніх колгасаў. Во дзе было весела! Шмат акцябрат і піонэраў было і з вёскі. Яны прабылі ў нас тры дні. Тут у нас вялікая школа. Мы зьбіраемся ў ёй, калі ідзе дождж. Тутака мы чытаем, малюем, гуляем. Піонэры зьбіраюць цяпер пустазельле на гародах, палёх і засушваюць для колекцый. Яшчэ яны зьбіраюць шкоднікаў садоў, палёў і гародаў і таксама будуць рабіць колекцыю ў школьны музэй. Мы дапамагаем піонэрам. Нават і наша Клара памагае. Яна ўжо не баіцца жукоў і чарвей, як раней. Нядаўна, як касілі луг, мы знайшлі гнёзды чмялёў. І ведаеш, Каця, піонэры ўзялі

іх у скрыначкі і ўвечары занесьлі іх у канюшыну. Яны кажуць, што чмялі—сябры канюшыны, бо яны памагаюць ёй заводзіць больш насеньня. А мы, Каця, тады з табой як знайшлі чмялёва гняздо, дык паелі мёд. Дрэнна зрабілі. Бачу ў вакно, выяжджае ў поле жняярка. Сёньня будуць жаць пшаніцу. Каця, каб ты бачыла, як добра і хутка працаваць машынамі! Сёньня вясёлы дзень. Сонца, сонца! Аж мітусіцца паветра ад праменьняў. Напішы мне пісьмо, Каця. Я буду чакаць. Перадай маё прывітаньне акцябратам і вучням. Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатова!

Жэня".

---

## МАЛЕНЬКАЯ ПРЫГОДА З ЧЫТАЧОМ

*(Жарт).*







# СТАНЕМ БАЙЦАМІ ЗА ПЯЦІГОДКУ

Два гады таму назад працоўныя пачалі выконваць пяцігодку. Што гэта азначае? А тое, што кожная фабрыка, завод, установа працуе па пэўнаму пляну. Гэты плян работы складзены для ўсіх на 5 год. У пляне дакладна вызначана, колькі вырабу павінен даць той альбо іншы завод і колгас за пяцігодку. За 5 год наша краіна павінна ўзбагаціцца рознымі новымі машынамі, таварам, хлебам, каб пазбавіцца тых недахватаў, якія часамі сустракаюцца цяпер.

Выходзячы з пяцігадовага пляну работы, складаюцца пляны на кожны асобны год. Ужо канчаецца другі год пяцігодкі. Але ня ўсе ўстановы акуратна выконваюць вызначаны імі плян работы. Ёсьць многа заводаў, якія зрываюць свае пляны. Напрыклад, завод „Пролетары" замест тысячы плугоў зрабіў за год толькі паўтысячы. Такім чынам, паўтысячы плугоў не хапіла для колгасаў. Тыя не заралі і не засеялі ўсяго поля. А вынікі адгэтуль ясныя. Вось чаму зрыў некаторымі заводамі сваіх пляваў работы шкодзіць усяму будаўніцтву.

Чаму-ж гэтыя заводы і фабрыкі ня выканалі сваіх плянаў? На гэта ёсьць многа прычын: шмат якія адсталыя рабочыя займаліся п'янкай і зрабілі многа прагулаў, іншыя працавалі кепска, адміністрацыя заводу нічога не зрабіла для таго, каб іх завод працаваў па-ўдарнаму... Але ўсе гэтыя прычыны пры жаданьні можна лёгка абмінуць.

Партыя зьвярнулася да ўсіх працоўных з заклікам — не дапусьціць зрываў гадавога пляну, усімі сіламі старацца выканаць работу начыстую! Усе працоўныя павінны ўзьняцца на змаганьне за тое, **каб пяцігодка была выканана не за пяць, а за чатыры гады.** Да канца году засталося яшчэ тры месяцы. За гэтыя месяцы трэба падцягнуцца ўсім тым, хто мае прарывы ў рабоце. Усе павінны добра падрыхтавацца да сустрэчнага трэцяга году пяцігодкі.

Дзеці! Вы таксама павінны стаць байцамі за пяцігодку! На заводах, у колгасах працуюць нашыя бацькі. Давайце пацікавімся і праверым, што робіцца на нашым заводзе, у колгасе. Можа там зрываецца плян работы таму, што кепска працуюць нашыя бацькі. Выявім гэта і зробім усё, што можна, каб бацькі працавалі па-ўдарнаму, каб варштат не сумаваў па іх і не стаяў без работы.

Будзем дапамагаць партыі выканаць пяцігодку за чатыры гады.

# Агацін тата



*Верш АСТАПЕНКІ і ТАУБІНА*

*Малюнкі РОЗАНАВА*

I

Быў у Агаты
П'яніца-тата.
Дома не начуе,—
Ходзіць у піўную.
А на заводзе
Толькі працы шкодзіць.
Пасьля ночы п'янай
Не ўстае ён рана.
Гудок гудзіць,



А тата сьпіць.
Крычыць Агата:
„Уставай, тата!..“
А тата ў дванаццаць
Выходзіць на працу
З цяжкой
Галавой.

II

Шумяць варштаты,
Працуюць таты:
І Янкаў тата
І Ганчын тата,
Міхалкаў тата,
Ігналькаў тата,—
Усе ля варштатаў.
Агацін тата,
Як прыдзе дахаты,
Пазяхае, размаўляе,
Вочы жмурыць,

Люльку курыць...
—„Галава баліць!..“
А варштат стаіць.

III

... Вывесілі тату
На чорную дошку —
„Працаваць ля вар-
штату —
Ня спаць на ложку!“
Падышла Агата
Ўвечары да таты.
Тата сёньня зрана
Быў зусім ня п‘яны.
Сядзіць спахмурнелы
Вечар цэлы.
Кажа Агата:
— „Слухай, тата,
Ты цяпер, выходзіць,
Лодыр на заводзе?!.
Ці ты будзеш так
І далей лайдак?..“



Пахіліўся тата
Прад малой Агатай,
Хаваючы вочы.
Павячэраў моўчкі.
Заўтра ўстаў ён рана
І, зусім ня п‘яны,
Працаваў старанна
Ля свайго варштату.
Кінуў ён піўную
І цяпер працуе
Без прагулаў тата.






*Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ*

*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Бяда была матцы з Міколкам. Заўсёды ён дурэў, і кожны дзень на яго скардзіліся.

— Цётачка, ваш Міколка б'ецца,—скардзяцца дзеці.

— Суседка, твой сынок пабіў нам акно каменем,— казала суседка.

— Ой, Міколка нагу падставіў, а я пакацілася... кроў з носа капае,—плакала Гэлька.

— Ну, і што гэта за дурасьлівец? Што мне з ім рабіць? Я ўжо і ўгаварвала яго і біла, але нічога не памагае... Вось бяда,—скардзілася матка, а сама ўсё сьпяшалася на работу альбо дома завіхалася.

А сёньня, ідучы на фабрыку, яна парашыла Міколку не выпускаць на двор, а заперці ў хаце.



— Няхай пасядзіць, тады паспакайнее. Калі яна вярнулася з работы ды ўвайшла ў хату, дык аж за галаву хапілася. Чаго толькі тут не натварыў Міколка! Пасярод хаты стаяла вялізная лужына вады, на падлозе валяліся кавалкі пабітых талерак, крэслы ўсе былі перавернуты, а на разбушаванай пасьцелі, брудны, запэцканы, моцна спаў

Міколка. І шкада хлопчыка і бяда з ім. Што рабіць з такім дзіцем?



Але вось пачаўся дашкольны паход. Пачалі адкрываць дзіцячыя сады, організоўваць пляцоўкі. Жакт, у якім жыў Міколка, таксама організаваў дзіцячую пляцоўку. Сакратар Жакту пазапісваў усіх дзяцей і Міколку таксама. Але маці недаверліва гаварыла:

— Ды ён там усіх дзяцей папсуе, калі яго аддаць на пляцоўку.

— Нічога, там уся яго дурасьць прападзе.

Міколка пачаў хадзіць на дзіцячую пляцоўку. Непакоіцца маці, чакае зноў якой бяды.

Ужо тры дні ходзіць Міколка, а ніхто нічога не гаворыць. І дома ён нейкім другім стаў. Пытаецца маці ў кіраўніцы пра сына, тая і адказвае:

— Здольны хлопчык. Скарэй за ўсіх усё разумее, усім цікавіцца...

Зьдзівілася маці, што гэтак хваляць яе дурасьліўца.



А Міколку цяпер і часу няма падурэць — на пляцоўцы вечна работы хапае. І малюе, і гімнастыку робіць, і гуляе, ды ці мала ёсьць цікавага!

Скора проста ніхто і пазнаць ня мог, што цяперашні Міколка быў такім гарэзьлівым дурасьліўцам.

**г. Харкаў.**

А. НЯВЕРАЎ

# МАЛЕНЬКІ СЬЛЁСАР

Даўно хацелася даведацца Грышку, як замок зроблены і чаму яго бяз ключа адамкнуць нельга. Паглядзіць адным вокам у дзірачку, дзе ключ усаджваецца — у замку нешта шчоўкае.



Вышла матка з хаты, а замок на стале пакінула. Вось Грышка і думае:

„Давай пагляджу! даведаюся пра ўсё і зноў злажу як было".

Адарваў верхнюю накрыўку—у сярэдзіне спружынка маленькая прычэплена, яна і шчоўкала, калі ключом варочалі. А раней Грышка думаў, што ў замку сядзіць маленькі чалавек з вялікімі зубамі. Пачаў зноў складваць замок як было—ня выходзіць. Стукаў, стукаў малатком—увесь замок пабіў.

Напалохаўся, заплакаў. Думаў, маці сварыцца будзе, але яна толькі сказала:

— Які ты цікавы вельмі, усё табе хочацца ведаць! Вырасьцеш вялікі, пойдзеш вучыцца на сьлёсара, тады і сам навучышся замкі рабіць.

# МІХАСЬКА.

Апавяданьне **А. Барто.**

Мал. **А. Бароўскай.**

Вырас Міхаська, дурасьліўцам стаў. Сядзіць ён раз каля хаты на прызьбе, нагамі махае. Бачыць, па дарозе нейкі дзядзька ідзе. Рубашка на ім сіняя, на плячы торбачка вісіць. Падыходзіць ён проста да Міхаські.

— Гэта чыя хата?—пытаецца.

Маўчыць Міхаська, нічога ня кажа. Увайшоў дзядзька ў хату, а там пуста.

— Ты сваё прозьвішча ведаеш?—пытаецца ён у Міхаські.

Ведае Міхаська прозьвішча, толькі выгаварыць ня можа. А дзядзька зноў да яго.

— Твайго бацьку Сяргеем завуць?

Зарадаваўся Міхаська, матнуў галавою. Дастаў дзядзька з торбачкі пісьмо.

— На вось,—кажа,—аддай бацьку. Толькі ня згубі, глядзі!

І пашоў. Сеў Міхаська на ганку, круціць пісьмо ў руках. „На што яно бацьку?—думае.—Ён яго ўсё роўна выкіне“.

Зацікавіўся Міхаська пісьмом. Вельмі яму марка спадабалася, сіненькая, маленькая такая. Захацелася яму паглядзець, што ў сярэдзіне ляжыць. Падумаў крыху, потым канвэрт парваў і выцягнуў адтуль паперку. Няцікавая паперка, толькі згорнута добра. Пачаў Міхаська яе па-свойму складваць, але раптам Кацярынку ўбачыў. З лесу з грыбоў ідзе. Зьбег Міхаська з ганку, моцна пісьмо сьціснуў, каб не адабралі.

Але потым абрыдзела Міхаську забаўляцца з пісьмом. Выкапаў ён ямку, закапаў сваю паперку, а каб не забыцца дзе—у зямлю палачку ўваткнуў.

А назаўтра вось што было: прышла ўвечары пяшком са станцыі цётка Наста. Чаравікі запылены, змарылася, села на лаву, хустачкаю пот выцірае.



— Што-ж гэта ты,—кажа яна бацьку, — мяне сустракаць ня прыехаў. Я табе знарок пісьмо з гораду выслала. Прышлося пяхотаю ісьці, а дарога вунь якая. Увесь дзень ішла.

Зьдзівіўся бацька, што пісьма не атрымаў.

—Заўтра пайду на пошту скардзіцца,—кажа.

Пачуў Міхаська пра пісьмо. Выбег некуды. Разгаварыўся бацька з цёткаю, глядзіць, Міхаська яго за рукаў тузае, у руку яму нейкую пакамечаную паперку пхае.

— Наце,—кажа,—ваша пісьмо. Толькі, глядзеце, каб потым назад аддалі.

Яно ў мяне ў ямцы ляжыць.

*Ал. Пальчэўскі*

# У чырвонаармейскім гарадку

Белыя будзёнаўкі ў зялёным лесе мы заўважылі яшчэ здалёк. Спачатку мы ўбачылі некалькі белых палатак, нацягнутых вяроўкамі і ўмацаваных на кійку пасярэдзіне. А калі пад'ехалі бліжэй, перад нашымі вачыма вырас цэлы гарадок.

Мы ад'ехалі сем вёрст ад Менску і трапілі да чырвонаармейцаў у лагер „Чырвонае Урочышча".

Горача ўлетку ў горадзе, высокія камяніцы не даюць доступу вольнаму ветру з палёў і лясоў.

У такую пару ўсе чырвонаармейскія часьці едуць за горад. Раней выбяруць сталае месца, часьцей за ўсё, у рэдкім лесе, на палянцы і жывуць тут пакуль цёплае надвор'е.

Была яшчэ раніца, калі мы прыехалі. На небе пачынала ўзыходзіць сонейка і на траве стаяла буйная раса. Мы ўсе (а нас было трое) накіраваліся да палатак, каб адразу пазнаёміцца з жыцьцём чырвонаармейцаў. Але вартаўнік (па вайсковаму ён называецца днявальны) у шэрай шынелі затрымаў нас. Ён распытаў, чаго мы прыехалі, паглядзеў дакуманты нашы і сказаў:

— Цяпер яшчэ ўсе сьпяць. Будзіць ня можна.

— А чаго вы стаіцё тут, а ня сьпіцё? — спытаў адзін з нас.

Чырвонаармеец усьміхнуўся з такога пытаньня і адказаў:

— Я вартую, каб вораг ня мог нарабіць шкоды, трапіўшы ў лагеры, каб ён не парушыў спакойнага сну чырвонаармейцаў.

Ён хацеў нам яшчэ штосьці апавядаць, але раптам далёка пачулася:

— Тругу-гу-тра-та-тругу!..

Праз хвіліну такі-ж гук пачуўся бліжэй у другім, трэцім, чацьвертым мясцох. Чырвонаармеец глянуў на гадзіньнік і прамовіў:

— Шэсьць з палавінаю гадзін. Пад'ём у лагерах.

З гэтае пары для чырвонаармейца пачынаецца працоўны дзень.

Адпачынак скончыўся. Лагер ажыў. Пачулася гамонка, сьмех, жарты. Адны абуваюцца, другія сьпяшаюцца мыцца, трэція прыбіраюць палатку.

— У войску час строга разьмеркаваны, — кажа нам днявальны, — а сёмай гадзіне ўсе чырвонаармейцы павінны быць гатовы да строю.

У гэты час прышоў да нас кіраўнік, якога выклікаў днявальны. Даведаўшыся хто мы,— ён пусьціў нас у лагер.

Першае, што кінулася нам у вочы — гэта надзвычайны вайсковы парадак. Усе палаткі былі разьмеркаваны строга ў рад. А ўздоўж іх былі сьцежкі (па вайсковаму яны называюцца лінейкі), па бакох абкладзеныя муравам, а пасярэдзіне высыпаныя жоўтым пяском.

— Ці ня сьвята якое сёньня?— спыталі мы ў кіраўніка. Ён паглядзеў на нас, і, нібы не разумеючы ў чым справа, спытаў:

— Чаму?

— А нашто-ж так падмецена і высыпана чысьценька?

— У нас заўсёды так, — адказаў ён.

Тады мой таварыш шэпча мне паціху:

— Каб хаця ў нас к сьвяту так прыбіралі вуліцы ў горадзе, ці ў вёсцы і то добра было-б.

У сярэдзіне палатак мы заўважылі ня меншы парадак, чым знадворку. Тут усё акуратна разьмеркавана, усё мае сваё пэўнае месца. У палатках жыло па 10, а ў некаторых па 12 чырвонаармейцаў. Адразу, як уваходзіш, у вочы кідаецца стойка, зробленая з дошчак, да якой прыстаўляюць стрэльбы, а з правага боку каля парогу стаіць столік, далей ад аднае сьцяны да другое — палок для спаньня. У кожнага сваё месца, свой сяньнік, два прасьцірадлы, коўдра. Адразу, як устаюць, дык кожны прыбірае сваю пасьцель, а дзяжурны па палатцы чысьценька падмятае зямлю.

А сёмай гадзіне мы пачулі:

— Выхадзі-і стро-оіцца!

Прайшло дзьве-тры хвіліны і ўсе стаялі ў два рады, кожны на сваім пэўным месцы ўздоўж па лінейцы. У кожным разьдзеле рабілі пераклічку па прозьвішчах. А калі скончылася пераклічка, усе строем пашлі на ранішнюю фізкультурную зарадку.

І а восьмай гадзіне бадзёрыя песьні абуджалі яшчэ сонную раніцу. Недзе далёка ў лесе адклікалася рэха песьні:

„Па сібірскім тайгам і далінам
Партызанскі атрад
прахадзіў...“

Гэта ішлі на сьнеданьне з зарадкі.

Пасьля сьнеданьня, а дзевятай гадзіне, усе чырвонаармейцы строем ідуць на стралковыя заняткі. Тут яны кожны па сваёй спэцыяльнасьці (пяхота, артылерыя, кавалерыя) замацоўваюць на практыцы здабытыя за зіму ў школах веды: адны ідуць страляць у цір, артылерыя езьдзіць страляць з гарматаў на палігон (такое месца, дзе 40 вёрст удаўжкі і 20 ўшыркі ніхто ня




На фотографіях:— 1) агляд каня, 2) (ніжэй) гульня ў футбол у вольны час, 3) каля насьценгазэты, 4) сыгнал на збор, 5) заняткі з процівагазамі, 6) чысьцяць бульбу, 7) палітгадзіна.

жыве), кавалерыстыя таксама маюць пэўнае месца для заняткаў.

Цэлы дзень тут чуецца як страляюць з стрэльбаў, з кулямётаў, з гармат, кідаюць гранаты.

Роўна а чацьвертай гадзіне страявыя заняткі канчаюцца. Тады ўсе чырвонаармейцы па чарзе строем ідуць на абед. Кормяць у Чырвонай арміі добра.

Пасьля абеду „мёртвая гадзіна“. У гэты час у лагерах не павінна быць сьпеваў, моцнай гутаркі. Адзін чытае газэту, другі—кнігу, трэці — сьпіць, адпачывае пасьля заняткаў.

А сёмай гадзіне „мёртвая гадзіна“ канчаецца. Тады ўжо кожны карыстаецца сваім часам, як сам хоча. Хто не пачысьціў стрэльбы — чысьціць яе, бо за нечыстату зброі ў войску сурова караюць. А другія ідуць гуляць у футбол, баскетбол, у гарадкі.

Кожная рота мае сваю ленінскую хатку, зьбітую з дошчак і накрытую дахам, дзе ўвечары праводзяцца сходы партыйныя, комсамольскія, агульныя.

А вечарамі тры разы ў тыдзень, а то і часьцей, прыяжджае кіно з Менску. На вялікай лагернай сцэне пад адкрытым небам тысячы чырвонаармейцаў глядзяць новыя, самыя лепшыя кіно-карціны.

У выхадныя дні часта прыяжджаюць артыстыя ўдзень і даюць пастаноўкі, сьпевы, іграюць на музычных інструмантах.

Весела тут бяжыць час.

На вольным паветры чырвонаармейцы лепш загартоўваюць сваё здароўе, бо Чырвоная армія павінна быць здаровая, дужая, каб сьмела сустрэць ворага, калі ён паважыцца ісьці на нас вайною.

Доўга мы хадзілі па лагерах, знаёмілі нас чырвонаармейцы са сваім жыцьцём, апавядалі аб сваіх унутраных распарадках.

У адзінаццаць з паловаю гадзін лагер заціхае. Усё сьцішаецца, супакойваецца, толькі дзяжурныя ды днявальныя ходзяць па лінейках, вартуюць спакойны сон адпачываючых. А стромкі лес шэпча ім свае казкі-былі.



# РАЗУМНЫ КЛІМ

*(Жарт).*

Слаўны хлопчык, сьмелы Клім,
Спаў сягоньня да паўдня...
Ўстаў заспаным ён такім,
І ад сну увесь разьмяк.



А тут Кліму ад турботы
Нельга вольна і ўздыхнуць:
Абувацца трэба ў боты,
Ды і порткі нацягнуць.

Кліча ён братоў сваіх —
І вялікіх, і малых.

Прыбягае брат Андрэй —
Ад усіх братоў вышэй.

А за ім малы браток—
Прыкаціўся, як клубок.

Так братоў прыбегла з пяць
Гультаю дапамагаць.

Адзін скінуў коўдру ў бок,
А другі насунуў бот.

Узяліся дзяцюкі
За шырокія парткі —

— Не хадзіць-жа без парток!—
— Скакай, Клім, сюды, браток!



З ложку Клім у порткі — скок!
— А-я-яй! Мае-ж браточкі!

Засталіся ад парток
Разадраныя шматочкі...

І падраныя парткі
Клім да ночы зашываў.

З таго часу ён ніколі
Гультая больш не спраўляў.

**Клім Качкін.**

# Сілос—найлепшыя харчы

### Што такое сілос?

Каб правільна і добра карміць скаціну, мала толькі аднаго сена ці саломы. Апрача гэтых харчоў, патрэбны вотрубі, жмыхі, зерне. А для малочнае скаціны патрэбны яшчэ і сакаўныя харчы: бульба ды карняплоды: буракі, турнэпс і інш. Бяз гэтых харчоў зараз не абыходзіцца ніводная амаль сялянская гаспадарка. Ды бяда ў тым, што іх хапае толькі да палавіны зімы нават у лепшых колгасах і саўгасах. Але можна лёгка замяніць альбо папоўніць недахоп карняплодаў другімі сакаўнымі харчамі — сілосам. Гэта найлепшыя і найтанейшыя харчы. Сілос не патрабуе догляду і ня псуецца пры захаваньні.



*Правільная, роўная сілосная яма.*

З чаго можна пачаць сілос. Улетку, калі прайсьці па вёсцы, можна бачыць каля будынкаў шмат розных шкодных расьлін. Шкодныя расьліны палёў не даюць нам ніякае карысьці. Але можна зрабіць так, што ад шкоднай травы, калі яе заквасіць, атрымаецца карысьць. Шкодныя расьліны квасяць у ямах або ў сілосных вежах. Вось такое заквашваньне называецца сілосаваньнем харчоў альбо проста сілосам. Такім чынам, атрымліваецца вельмі добры сакаўны харч.

Для сілоса прыгодна зялёная расьліна ў поўным зацьвітаньні.

Можна сілосаваць капусны ліст, бурачны ліст, ліст турнэпсу, бульбянік зялёны, крапіву, асот, лопух, лісты лазы, маладую асаку. Лепшы корм атрымліваецца з лепшых расьлін.



*Яма, абкладзеная цэглаю і змацаваная цэмантам.*



*Яма, абстаўленая дошкамі.*

## Як робяць яму для сілоса



*Сякуць розную траву для сілоснай ямы.*

Яму для сілоса капаюць блізка каля хлява. Месца для ямы трэба выбраць такое, каб не зацякала вада і гнойная жыжка. Яма павінна быць клуглай, глыбінёю ў тры мэтры, а ўшыркі 2 мэтры. Сьценкі ямы капаюцца пад простым кутом і гладка. Дно і верх аднолькавыя, ні ў якім разе дно не павінна быць шырэйшым за верх. Зямля, вынутая з ямы, адкідваецца паўкругам, ня бліжэй аднаго мэтру ад краю ямы. Калі грунт пясчаны, сыпкі, тады сьценкі ямы абіваюцца дошкамі. Патрэбна, каб дошкі шчыльна прылягалі адна да аднэй. Трэба зрабіць так, як робяцца бочкі. Дно робіцца з дошчак, а пад яго кладзецца тлустая гліна. Яма гатова.

Але гэта просты спосаб сілосаваньня. У вялікіх колгасах і саўгасах ямы робяцца з цэманту, а яшчэ лепш гэта будуюць сілосныя вежы, так званыя амэрыканскія.

Сілосаваць у вежах куды лепш і выгадней. У сілосных вежах менш трацiцца пры награваньні каштоўных спажыўных рэчаў. На пабудову сілосных вежаў дзяржава дае пазыкі і дапамагае тэхнічнымі кіраўнікамі.

Колькасьць сілосных ям з кожным годам павялічваецца. Сілосныя вежы зараз мае амаль кожны саўгас і павінен мець кожны колгас. Але трэба заўсёды памятаць, што пабудаваць сілосныя вежы мажліва толькі буйным гаспадаркам—колектывам ды саўгасам. Каб атрымаць дапамогу ад дзяржавы дзеля пабудовы сілосных вежаў, беднякі і серадняки павінны аб'яднацца ў колектыўную гаспадарку, пабудаваць колектыўны жывёлагадоўчы двор.



*Сілосныя вежы.*

**Дзеці! прачытайце гэты артыкул сваім бацьком. Дапамагайце, чым толькі можаце, пашыраць сілосныя ямы.**

# У вырай



*Апавяданьне Н. УЛАШЧЫКА.*

Апусьцела поле. На ім ужо не калышуцца залатыя хвалі сьпелага, каласістага жыта. Усё яно зжата і зьвезена ў гумны. Луг пачарнеў. Няма прыгожых рознакалёрных красачак; ня лётаюць над імі вясёлыя матылькі, ня чуваць гоману конікаў і мошак. Ветрык вылецеў пагуляць з каласкамі, з краскамі, але ўсюды пуста... няма да каго прытуліцца. Ён злосна зашумеў іржышчам і панёсься праз голае поле і луг да лесу. Там закруціўся каля зялёнае хвойкі, страсянуў асіну і памчаўся да маладое бярозкі.

Асіна паслала яму ўсьлед свае чырвоныя лісточкі, а бярозка слаба закалыхала галінкамі.

Твар сонца закрылі густыя шэрыя хмары, і паліліся з іх дробныя сьлёзкі дажджу.

У гэткую пару сабраліся ластавачкі на страсе хлява, селі радкамі і павялі размову:

— Халаднее...

— На полі і ў лесе зьнікае апошняя машкара.

— Хутка прыдзецца з голаду ўміраць.

— Пара нам у дарогу зьбірацца. Пара ў цёплыя старонкі ляцець,—сказала ластавачка.

— Ляцець! ляцець! — зашчабяталі ўсе ластавачкі.

— А куды гэта вы зьбіраецеся ляцець? — запытала ластавачак сарока-белабока, якая толькі што падляцела сюды.

— Далёка, далёка, за шырокае мора, у цёплыя старонкі. Туды, дзе няма зімы, дзе заўсёды сьвеціць сонейка, дзе так шмат камароў і мошак, — адказалі ластавачкі.

— І вы не баіцеся гэткага вялікага падарожжа? — зьдзівілася сарока-белабока.

А ластавачкі адказалі ёй:

— Вялікай грамадой паляцім мы. Тое, што ня здолее кожная з нас у асобку — здолеем мы грамадой. Наша сіла ў грамадзе.

— Але-ж на вашым шляху будзе шмат перашкод? — зноў запытала сарока-белабока.

— Так, — адказалі ластавачкі. Але для грамады гэтыя перашкоды ня страшны. Вядома, некаторыя з нас загінуць у гэтай вялікай дарозе, але што з таго, — без ахвяр абыйсьціся нельга.

— Ну, жадаю вам шчасьлівай дарогі, — сказала сарока-белабока. — Калі прыляціцё сюды вясной, дык раскажаце мне пра ваша вандраваньне.

— Раскажам, пэўна-ж, раскажам, — адгукнуліся хорам ластавачкі.

— Мы і цяпер маглі-б расказаць табе шмат цікавага, але часу няма, трэба яшчэ шмат аб чым параіцца ды і ў дарогу зьбірацца.

— Бывай здарова, мілая сарока-белабока! Жадаем табе правесьці зіму як найлепей. Каб марозы былі невялікія і каб табе не давялося цярпець холаду і голаду.

— Дзякую за добрае пажаданьне, — адказала сарока-белабока і паляцела шукаць сабе ежы. Ёй, беднай, сёньня не пашчасьціла і яна з самага раньня лётае галодная.

А ластавачкі паляцелі шукаць сабе большай грамады ды зьбірацца ў вялікае падарожжа.



---

Прачытаўшы апавяданьне, адкажы на наступныя пытаньні:

1) Чаму птушкі ўвосень ляцяць у вырай?

2) Чым кормяцца ластавачкі?

3) Якія птушкі застаюцца на зіму ў нас?

4) Чым яны кормяцца?

5) Чаму птушкі для пералёту зьбіраюцца грамадой?

6) Як лепей выконваць работу: аднаму ці цэлым колектывам?

# НЯ БУДЗЕ БОЛЬШ НЯГРАМАТНЫХ

*(Канец).*

ка і селяніна — такая задача пастаўлена партыяй і ўладай перад усімі працоўнымі. Гэта задача павінна быць выканана. Але, апрача старэйшых, ёсьць і дзеці, якія змалку ня ходзяць у школу. Прычын на гэта многа: бацькі несьвядомыя, няма школы, абутку і інш. Калі такіх дзяцей не паслаць цяпер у школу, дык праз некалькі год мы будзем мець новыя няграматныя масы працоўных. Дзеля гэтага ліквідацыю няпісьменнасьці і пачынаюць з дзяцей. Уводзіцца ўсеагульнае абавязковае навучаньне для ўсіх дзяцей.

## Дзеці 8-10 год — усе ў школу!

Ужо летась у многіх раёнах было ўведзена абавязковае навучаньне для васьмігодак. Першыя спробы прайшлі добра. Сёлета ўсюды законам уводзіцца абавязковае навучаньне для дзяцей 8, 9 і 10-гадовага ўзросту. Кожны павінен скончыць пачатковую школу — 4 групы сямігодкі; з часам кожны павінен будзе прайсьці агульнае навучаньне за поўную сямігодку.

## Дапаможам правесьці ўсеагульнае навучаньне

Многія дзеці ня могуць хадзіць у школу. Асабліва дзеці батракоў і беднаты. Дзяржава ўсімі сіламі стараецца дапамагчы такім дзецям. Але і самі вучні не павінны застацца з боку. Трэба наладжваць розныя зборы, пастаноўкі, трэба старацца рознымі спосабамі дапамагаць сваім таварышом, якія па тых ці іншых прычынах ня могуць хадзіць у школу. Толькі агульнымі сіламі мы зможам дабіцца таго, што ўсе дзеці сёлета будуць вучыцца ў школе.

## Шануй кожную дзяржаўную капейку!

Каб увесьці ўсеагульнае абавязковае навучаньне, трэба зatраціць многа сродкаў. Наша дзяржава яшчэ досыць бедная. Грошы трацяцца на іншыя неадкладныя патрэбы: будаўніцтва новых фабрык і заводаў, колектывізацыю і інш. Таму кожная капейка для нас вельмі дарагая. А ёсьць дзеці, якія гэтага ня ведаюць. Яны дарма псуюць дзяржаўныя сродкі і займаюць месца ў школе.

Хто гэта?

— **Другагоднікі.**

Другагодніцтва — шкодніцтва! Ніводнага другагодніка ў школе! Такую задачу павінна ставіць перад сабою кожная школа.

Усім, чым толькі можаш, дапамагай праводзіць усеагульнае абавязковае навучаньне!

# ДЛЯ РАЗВАГІ І ЗАБАВЫ.



*Прапала качка. Дзяўчынку паслалі шукаць яе. Але дзяўчынка ходзіць, плача і нідзе знайсьці ня можа. Дзе-ж падзелася качка?*



*З намаляваных кавалачкаў можна зложыць хатнюю птушку. Паспрабуйце гэта зрабіць.*



*Якога зьвера шукаюць нэгры і дзе ён схаваўся?*

**ЖАРТ**



*Вучыць Янка зубы чысьціць*
*Свайго роднага дзядка.*
*А у сівага дзядулі*
*Аніводнага зубка.*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ
ЯКІМОВІЧ А.

# Падпішэцеся зараз-жа



# на Іскры Ільіча



## Умовы падпіскі:

На 3 месяцы . . . . . — 45 кап.
На 6 месяцаў . . . . . — 90 „
На 1 год . . . . . . . 1 р. 80 „

**ДЗЕЦІ!** Зьбірайце колектыўную падпіску ў школах, у групах акцябрат, у атрадах і здавайце на бліжэйшую пошту альбо перасылайце ўсё (сьпіс падпісчыкаў і грошы) у кантору рэдакцыі, па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, „Чырвоная Зьмена“.




Менск, Друк. БДВ імя Сталіна Зак. 2444. 1.600 экз. Галоўлітбел № 3010.